# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

1 красавіка 2016 года №14 **(1092)**





## Ніл Гілевіч

**больш не з намі.**

**Пайшоў з жыцця апошні Народны паэт Беларусі**

старонка 2

# Маладзечанцы пасля 60 гадоў:




старонка 5

Фота з архіва "РГ".

**На пуцеправодзе ў Маладзечне машына прабіла кола... а ДАІ аштрафавала кіроўцу**

старонка 3

**"Мне абрыдла кахаць, таму ажаніцеся са мной за мільён долараў". Прэм'ера ў драмтэатры**

старонка 6




**Калі ў цябе сур'ёзныя намеры – падары каханай падпіску на "Рэгіянальную газету"**

Падпісацца на "РГ" можна на пошце па ўсім рэгіёне
Падпісны індэкс:
63212 (індывід. падпіска),
632122 (ведамасная падпіска)

ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444

## “Ён быў вельмі душэўны і сціплы чалавек”

### Памёр краязнаўца з Вілейшчыны Яўген Петрыкевіч

ВІЛЕЙКА

**Ранкам 23 сакавіка ў бальніцы ў Бараўлянах памёр краязнаўца з Вілейшчыны Яўген Петрыкевіч. Было яму 63 гады.**



Яўген Петрыкевіч.

– Яўген быў у нашай суполцы краязнаўцаў, займаўся гісторыяй свайго роду, Порсы, Вілейшчыны, – расказвае краязнаўца з Любані **Аляксандр Зайцаў**. – Яўген Мікалаевіч збіраў старадаўнія дакументы па Вілейшчыне і заўсёды шчыра дзяліўся імі і з намі, і з краязнаўчым музеем. Ён быў вельмі душэўны і сціплы чалавек. Ніколі не казаў: “Гэта я адкрыў, гэта я знайшоў”. Гаварыў: “Галоўнае, каб справа рабілася, каб вілейскія людзі ведалі”.

– Яўген быў цудоўным чалавекам, любіў бескарысліва дапамагаць людзям. Многія ўдзячныя яму за сядзейнічанне ў іх лёсе. Быў і добрым сем’янінам. На жаль, не паспеў пабачыць трэцяга ўнука, які ўжо нарадзіўся, – дадае сябра Яўгена **Лявон Куксіновіч**.

Расказаў Лявон, што Яўген Петрыкевіч захапляўся не толькі краязнаўствам.

– У яго ў доме ў Порсе была ўладкаваная абсерваторыя на вышкі і ўстаноўлены тэлескоп. Ён любіў назіраць за зоркамі. А калі жыў у Мінску, то захапляўся яхтамі. Купіў польскую яхту – такія, трохметровыя, у Мінску былі ўсяго тры. Плаваў з жонкай па Мінскім моры і на Браслаўскіх азёрах.

Яўгена Петрыкевіча пахавалі на могілках ля Порсы 24 сакавіка.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хто мацнейшы ў інтэлектуальных гульнях

ВІЛЕЙКА

Гэта высвятлялі напярэдадні і падчас вясновых канікулаў вучні Вілейшчыны.

Адразу інтэлектуальная гульня “Брэйн-рынг” прайшла 19 сакавіка сярод каманд юніёраў (вучні 10-11 класаў) . У гульні прынялі ўдзел шэсць каманд. Пераможцам стала каманда “Фартуна” вілейскай гімназіі №2, другое месца ў каманды “Неасакрацікі” з сярэдняй школы №3, трэцяе – у каманды “Скарынічы” з Даўгінаўскай сярэдняй школы.

23 і 24 сакавіка ў гульні “Брэйн-рынг” змагаліся каманды юнейраў (вучні сёмых-дзявятых класаў). Паміж камандамі ўстаноў адукацыі сельскай мясцовасці першае месца заняла каманда Куранецкай СШ “Віраж”. Каманды “Двойчы два” з Асіпавічаў і “Бумеранг” з Нарочкай СШ занялі другое і трэцяе месцы адпаведна.

Самай гарачай бітвай сярод трох інтэлектуальных турніраў аказалася гульня “Брэйн-рынг” сярод камандаў ювеналаў устаноў адукацыі горада. З вялікай перавагай перамагла каманда “Неасакрацікі” сярэдняй школы №3.

Другой стала каманда “Ніка” з вілейскай гімназіі №1 “Логас”, трэцяй – каманда “Альтэрнатыва” з СШ №5.

**Сяргей РЫЖЭВІЧ,**
**культарганізатар Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

## Юныя скрыпачы сталі лаўрэатамі конкурсу

ВІЛЕЙКА

Навучэнцы Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў **Яна Мучынская і Амраан Аль-Хлейфат** 20 сакавіка ўдзельнічалі ў дзявятым адкрытым абласным конкурсе “Крынічка”.

Праходзіў ён у Баранавіцкім музычным каледжы. Удзельнікі былі з Брэсцкай і Мінскай абласцей.

Абодва скрыпачы з Вілейкі сталі лаўрэатамі другой ступені ў сваіх узроставых групах. Падрыхтавалі іх выкладчык па класе скрыпкі **Таццяна Жук** і канцэртмайстар **Святлана Ражко.**

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Віктара ТАЛОЧКІ, “Sputnik”.

# Ніл Гілевіч больш не з намі

### У 84 гады пайшоў з жыцця апошні Народны паэт Беларусі

> Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы,
> Калышыце, люляйце свой напеў векавы,
> А я лягу-прылягу край гасцінца старога
> На духмяным пракосе недаспелай травы.

Радкі з верша Народнага паэта Ніла Гілевіча, якія таксама сталі народнымі

**Апошнім часам ён пакутаваў на анкалагічнае захворванне. 29 сакавіка трапіў у рэанімацыю.**

Развітанне з Народным паэтам Беларусі пройдзе 1 красавіка ад 11 да 13 гадзін у Свята-Петрапаўлаўскім саборы (Мінск, вул. Ракаўская, 4). А 13-й там пачнецца пахавальная царкоўная служба. Пахаваюць Ніла Гілевіча на Кальварыйскіх могілках, каля жонкі.

**Лявон Цімохін пра Ніла Гілевіча**

Мы пазнаёміліся на мяжы 80-90-х гадоў, калі Ніл Гілевіч выступаў у Палачанах у Доме культуры. Я таксама чытаў на той сустрэчы два свае вершы: “Курган” і “Нямы плач”. Ён потым падышоў да мяне, вельмі цёпла адгукнуўся пра вершы, асабліва пра “Нямы плач”, яго ён горача падтрымаў, бо прысвечаны мове.

Большага патрыёта і барацьбіта за беларускую мову не ведаю. Такога баявога, актыўнага, разумнага і неераўнадушнага чалавека ў адносінах і да мовы, і да жыцця я ў сваім жыцці не сустракаў.

Мы паразумеліся і пасябравалі.

Потым, калі я з аднадумцамі арганізаваў у Маладзечне гарадское Таварыства беларускай мовы, папрасіў Ніла Гілевіча выступіць перад намі. І ён пагадзіўся, выступіў з прамовай у тэатры.

Ніл Сымонавіч вельмі любіў і цаніў жарты.

Я быў адным з каардынатараў выбарчага штаба па Маладзечанскай акрузе Ніла Сымонавіча, калі выбіралі дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання.

Канкурэнткай яго ў барацьбе за дэпутацкае крэсла была прадпрымальніца ад “Забудовы”. І яе штаб, і мы развозілі і расклейвалі лістоўкі ў падтрымку сваіх кандыдатаў, праз іх анансавалі наступныя сустрэчы.

У нашага штаба грошай, каб разгарнуць працу з лістоўкамі, не хапала. Лістоўкі здзіралі. У штаба прадпрымальніцы з гэтым праца ішла нашмат лепей.

Аднойчы Ніл Сымонавіч у роспачы сказаў, што без грошай мы нічога не зможам зрабіць, і я прапанаваў яму ўзяць на сустрэчы баяніста і спявачку. Вось тады пайшлі сустрэчы! Выступы разбаўлялі народныя песні, жарты, надзвычай весела яны праходзілі. Ад’язджалі мы пад “Бывайце здаровы, жывіце багата”.

**Ніл Сымонавіч пасля такога нашага фокусу перамог на выбарах. Пасля мы пыталіся ў людзей, за каго галасавалі, дык нам адказвалі: “Канешне, за “Гулевіча”!”**

Неаднойчы быў у яго ў гасцях, дзе прымалі вельмі сардэчна. **Ніна Іванаўна**, жонка Ніла Гілевіча, заўсёды падавала на стол смажаныя рабрынкі.

Ніл Сымонавіч вельмі любіў маладзечанскае піва. Ён жартаваў на гэты конт і нават верш прыдумаў. Як быў за мяжой і каштаваў там піва, душа крычала: “Дайце ж, братцы, маладзечанскага!”

Ён ніколі не “вохкаў”, ён браў і рабіў. Ці то словам, ці то артыкулам, ці то вершам.

**Ён з вялікай павагай ставіўся да людзей, якія думалі не так, як ён. Але думалі і гаварылі пра гэта шчыра.**

Калі прымалі Закон аб мовах, ён разумеў, што вялікая колькасць людзей русіфікаваная. Але ён таксама разумеў, што ў душы кожны чалавек мае Богам дадзеную вялікую ласку да мовы продкаў, да роднай мовы. Дзякуючы яго неагрэсіўнай палітыцы, палітыцы братэрства беларусаў розных палітычных поглядаў, удалося прыняць той Закон, які адзінай дзяржаўнай мовай аб’яўляў беларускую. Захоўваючы правы з поўнай свабодай пісаць і размаўляць на ўсіх мовах нацыянальных меншасцяў.

Ён ласкава вучыў сваіх апанентаў, што асновай духоўнага жыцця павінна быць родная мова. Ён верыў у чалавечую душу.

Апошні раз я чуў яго пяць дзён таму. Я патэлефанаваў Нілу Сымонавічу як геніяльнаму перакладчыку, каб прачытаць мой пераклад верша “Хмары” вялікай паэткі ўкраінскага народа, якая была паэтычнай сяброўкай Ніла Гілевіча, **Ліны Кастэнкі**. Сэнс гэтага верша ў бессмяротнасці чалавечай душы.

Ніл Сымонавіч вельмі любіў чалавечую душу! І я думаю, што душа дарагога мне Ніла Сымонавіча паляціць на крылах паэзіі да самога Бога. І адтуль будзе глядзець на нашу родную старонку з вялікім спачуваннем і надзеяй, што яго прарочыя паэтычныя словы мільённа памножацца ў душах беларусаў “і ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі”, як ён казаў у сваім вершы. Разам з табой, дарагі дружа, народны наш паэт.

**Настасся РОЎДА.**

**Даведка “РГ”. Лявон Цімохін** узначальваў Маладзечанскае гарадское таварыства беларускай мовы ў той час, калі Ніл Гілевіч – Рэспубліканскае таварыства беларускай мовы.

# На пуцеправодзе ў Маладзечне машына прабіла кола...

## а ДАІ аштрафавала кіроўцу

МАЛАДЗЕЧНА

**Яму з арматурай, якая тырчала з яе, засыпалі работнікі "Камунальніка" днём, 24 сакавіка, але яна паспела нарабіць многа работы і праблем тым, хто ў яе трапіў.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Засыпаць яміны шчэбнем на пуцеправодзе пачалі адразу пасля здарэння.

Расказвае кіроўца **Арцём Малькевіч**, што сёння трапіў у яму.

– Ну так атрымалася, трапілі ў яму. Выклікалі ДАІ. Яны прыехалі і выпісалі штраф па пункце 5 артыкула 18.22. "Парушэнне правілаў прыпынку і стаянкі транспартнага сродку, а таксама іншых правілаў дарожнага руху". Яны ж і ўстанавілі памеры ямы 1,9 м на 1,2 м глыбінёй 12 сантыметраў з арматурай унутры. Выдалі нам даведку, што вінаваты бок – УП "Камунальнік". Мы патэлефанавалі ў "Камунальнік", яны віну не адмаўляюць, але адправілі збіраць даведкі.

Патрабавалі дакумент "аб тым, што шына не прыдатная да рамонту і далейшай эксплуатацыі", і выпісаны рахунак-фактуру на два колы такой маркі і памераў.

Два колы на машыну кіроўцы Арцёма каштуюць 2 мільёны 160 тысяч рублёў. І гэта без устаноўкі.

– Але колы маёй мадэлі знятыя з вытворчасці, а правілы дарожнага руху патрабуюць аднолькавы пратэктар шын на адной восі. Затым з'ездзілі ў "Камунальнік". Юрыст "Камунальніка" сказаў, што трэба чакаць пастанову з ДАІ (10 дзён), патрэбны не рахунак-фактура, а касавы чэк аб набыцці колаў. Але аплацяць толькі кошт аднаго кола, і то ў працэнтных адносінах са зносам майго пашкоджанага кола . І то, я думаю, што "Белдзяржстрах" будзе праводзіць сваю экспертызу.

Арцём дадае, што ён выставіў знак аварыйнага прыпынку, таму сам здзіўлены, чаму ДАІ выпісала яму штраф.

Інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош** патлумачыў, што кіроўцу аштрафавалі не за парушэнне правілаў прыпынку, а за тое, што пры ўзнікненні перашкоды або небяспекі для руху, якія кіроўца ў стане выявіць, ён абавязаны неадкладна прыняць меры да зніжэння хуткасці руху, аж да спынення транспартнага сродку.

Гэта прапісана ў пункце 87.2 Правілаў дарожнага руху Беларусі.

– А пункт 5 артыкула 18.22 якраз і гаворыць пра тое, што пры парушэнні гэтага правіла прадугледжаны штраф. І на будучае хочацца пажадаць, каб самі кіроўцы былі больш уважлівымі да таго, за што яны распісваюцца ў пратаколе.

У момант, калі карэспандэнты "Рэгіянальнай газеты" прыехалі на пуцеправод зрабіць фотаздымкі, яміну засыпалі работнікі "Камунальніка".

Дзеля гэтага яны прывезлі чатыры мяхі шчэбню.

– Пуцеправод – праблемны аб'ект, – кажуць рабочыя, – рамантаваць яго даводзіцца даволі часта. А яшчэ холадна, таму асфальт класці нельга. Вырашылі прымаць часовыя меры.

У гэты час кіроўцы адзначаюць, што засыпаць шчэбнем – гэта не рашэнне праблемы. Таму што, калі па такой яміне праедзе цяжкая фура, увесь шчэбень паразлятаецца па дарозе. Да таго ж, жалезную арматуру не прыбралі, а насыпалі каменьчыкаў на яе.

На наступны дзень пасля здарэння УП "Камунальнік" узяўся за рамонт пуцеправода.

З раніцы, як паведамлялі відавочцы, там была закрытая правая паласа ў бок плошчы Старое Места.

Але ўжо ў 13:00 на пуцеправодзе нікога не было, ямы засыпалі сумессю пяску.

Чаму пуцеправод рамантуюць па некалькі разоў на год, нам патлумачылі ў ДРСУ-195. Па пуцеправодзе ідуць тэмпературныя швы. Іх шырыня амаль метр.

Калі замярзае або растае дарога, швы "дыхаюць", і на іх месцы крышыцца асфальт.

**Чаму ж нельга адрамантаваць гэты мост так, каб на яго больш не было наракання?**

З такім крыкам душы ўсіх кіроўцаў Маладзечна мы звярнуліся да намесніка дырэктара УП "Камунальнік" **Віктара Макарэвіча.**

Ён патлумачыў, што пуцеправод адносіцца да катэгорыі мастоў, таму і рамантаваць яго могуць толькі спецыялісты, якіх у Маладзечне няма.

– Экспертызу мы рабілі, пуцеправод патрабуе капітальнага рамонту, на які, акрамя спецыялістаў, патрабуюцца вялікія грошы, якіх пакуль няма.

**Апошні раз капітальны рамонт пуцеправода, па словах Віктара Макарэвіча, быў 8 гадоў таму.**

Пакуль жа, працягвае Віктар Макарэвіч, ямы засыпаюць спецыяльнай сумессю, якая мае назву САМС. Гэта сумесь са шчэбню і смалы.

– Аднак нават такая, зусім нятанная, сумесь можа пратрымацца на дарозе тыдні 2-3. З красавіка запрацуюць асфальтавыя заводы, таму рамонт на пуцеправодзе будзе дароблены.

**Наталля ТУР.**


**Филиал ПУ "Молодечногаз" информирует, что с 25.03.2016г. изменились номера телефонов отделов и служб управления**

| Должность | Телефон |
|---|---|
| Директор | 55-26-80 |
| Приемная | 55-26-96 |
| Главный инженер | 55-26-93 |
| Начальник ПТО | 55-30-77 |
| Охрана труда | 55-26-94 |
| **Планово-экономический отдел** | |
| Специалист по кадрам | 55-26-83 |
| Программист | 55-26-86 |
| Главный бухгалтер | 55-26-91 |
| Бухгалтерия | 55-26-90 |
| Служба заказчика | 54-99-95 |
| Старшие контролеры | 54-99-94 |
| Мастер СРВР | 55-26-87 |
| Мастер СВДГО | 55-26-81 |
| Инструктор по работе с населением | 55-26-88 |
| Служба защиты | 55-26-84 |
| Мастер-метролог СУГ | |
| Начальник СЭСГ | 55-26-85 |
| Мастер СТ и РСУГ | 55-26-92 |
| Контролер СТ и РСУГ | |
| Начальник службы СВДГО | 55-26-95 |

«МОЛОДЕЧНЕНСКОЕ ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ УПРАВЛЕНИЕ» (Филиал ПУ «МОЛОДЕЧНОГАЗ») УНП 100008077



ТЕПЛИЦЫ
ПОЛИКАРБОНАТ
БЕСЕДКИ
ДУШИ дачные
МТС 8 (033) 602-60-60
VEL 8 (029) 111-40-70
ООО "АГРОВАЗА" УНП 591020785


| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.03 | 31.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 20 161,00 | **20 133,00** |
| Еўра | 22 566,00 | **22 779,00** |
| Злоты | 5 317,15 | **5 330,91** |
| Расійскі рубель | 297,89 | **297,49** |
| Грыўня | 776,91 | **764,60** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 23.03** | | |
| Еўра | 22400/22700 | **22400/22800** |
| Долар ЗША | 20000/20220 | **20000/20270** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.03 | 30.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 900 | **169 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 44 900 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 59 000 | **59 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 18 900 | **19 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **6 900** |
| Часнок, 1 кг | 77 000 | **73 500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 23 000 | **22 500** |
| Морква, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 59 000 | **59 000** |
| Лімоны, 1 кг | 39 000 | **42 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 000 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 25 000 | **25 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 500 | **24 500** |
| Ківі, 1 кг | 26 500 | **34 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 28 000 | **33 000** |
| Агуркі, 1 кг | 35 000 | **30 000** |
| Перац, 1 кг | 74 900 | **75 000** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 26 900 | **28 000** |
| Гранаты, 1 кг | - | **32 000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 54 900 | **55 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 900 | **14 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 26 900 | **25 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |


МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УП «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

КУРСЫ ИНОСТРАННЫХ ЯЗЫКОВ



✓английский ✓немецкий ✓польский

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204

## Разгляд скаргі асуджанага да смяротнага пакарання віляйчаніна перанеслі

ВІЛЕЙКА

Раней прэс-служба Вярхоўнага суда паведамляла, што судовае пасяджэнне па касацыйным разглядзе скаргі на смяротны прысуд віляйчаніна пройдзе 22 сакавіка.

Але разгляду гэтай крымінальнай справы не было – яе перанеслі.

Стала вядомая новая дата. Разгляд апеляцыйнай скаргі асуджанага да смяротнага пакарання жыхара Вілейкі адбудзецца ў Вярхоўным судзе 8 красавіка ў 9:30, паведаміў каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" **Андрэй Палуда.**

Нагадаем, што 5 студзеня ў Вілейцы Мінскі абласны суд вынес смяротны прысуд 48-гадоваму віляйчаніну, які збіў да смерці сужыцельніцу.

Раней мужчыну прыгаворвалі ўжо да смяротнага пакарання за здзейсненыя ў 1989 годзе злачынствы. Але Вярхоўны суд па яго скарзе тады прысуд адмяніў і ў выніку смяротнае пакаранне замянілі на 15 год калоніі.

**Аддзел інфармацыі.**

## 34-гадовая маці дваіх дзяцей загінула на пажары ў блоку інтэрната ў Астраўцы

АСТРАВЕЦ

24 сакавіка жыхарка Астраўца паведаміла ў службу "101" аб тым, што з акна інтэрната па вуліцы Школьнай ідзе дым. Па названым адрасе выехалі пажарныя падраздзяленні, брыгада "хуткай дапамогі", спецыялісты РАУС і райгазу.

Загаранне адбылося на пятым паверсе ў жылым блоку памерам 5х6 метраў.

Высветлілася, што тут жывуць жанчына 1982 года нараджэння, яе муж і двое дзяцей. На момант узнікнення пажару муж знаходзіўся на працы, дзеці – у бабулі.

У моцна задымленым пакоі на падлозе каля канапы выратавальнікі знайшлі гаспадыню. Рэанімацыйныя мерапрыемствы не далі жаданага выніку, і доктар канстатаваў смерць.

За межы памяшкання пажару не далі магчымасці распаўсюдзіцца. Агнём пашкоджаныя бытавая тэхніка, мэбля, закураныя сцены і столь.

Асноўная версія – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання. З дапамогай падаўжальніка да электрасеткі былі падключаны абагравальнік, камп'ютар і іншыя электрапрыборы. Пажар пачаўся менавіта ў гэтай частцы пакоя.

**Паводле mchs.gov.by**

## Шукаюць сведкаў дарожна-транспартнага здарэння

ВІЛЕЙКА

Устанаўліваюць магчымых відавочцаў дарожна-транспартнага здарэння.

Яно адбылося 27 лютага прыблізна ў 20:15 у Вілейцы. Кіроўца на аўтамабілі ВАЗ-21112 рухаўся паблізу дома №76 па вуліцы 1 Мая з боку вуліцы Чапаева ў накірунку чыгуначнага пераезда. Ён здзейсніў наезд на пешахода, які пераходзіў дарогу справа налева адносна руху аўтамабіля.

Калі вам што-небудзь вядома пра абставіны здарэння, просьба патэлефанаваць па нумары **8 (01771) 5-41-40 ці 102.**

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

## "Прамая лінія" з кіраўніком мінскай абласной міліцыі пройдзе 6 красавіка

**"ПРАМАЯ ЛІНІЯ"** адбудзецца з начальнікам УУС Мінскага аблвыканкама генерал-маёрам міліцыі **Ігарам Уладзіміравічам Яўсеевым.**

Яна прызначаная на 6 красавіка ад 14 да 15 гадзін.

Тэма – прафілактыка на Міншчыне правапарушэнняў, якія ўчыняюць непаўнагадовыя ці з іх удзелам.

Свае пытанні вы можаце задаваць па тэлефоне **(817) 229-09-09.**

**Паводле паведамлення УУС Мінаблвыканкама.**







# Хлопец не дачакаўся дзяўчыну з гасцей, паехаў па яе...

ВАЛОЖЫН

**... А каб вярнуцца дадому, скраў ровар.**

Гісторыя адбылася 6 сакавіка з 20-гадовым жыхаром вёскі Гарадзілава.

Ёсць у хлопца дзяўчына, якая вучыцца ў Валожыне. 5 сакавіка яна ў свайго каханага адпрасілася, каб з'ездзіць у госці да сяброўкі ў вёску Бабровічы. Абяцала, што 6 сакавіка вернецца дадому.

З самай раніцы ён пачаў чакаць сваю каханую. Чакаў-чакаў, а яе ўсё не было.

Пад вечар, ужо добра падвыпіўшы і засумаваўшы, маладзён вырашыў забраць яе.

Аўтаспынам, на перакладных, дабраўся да Бабровічаў, знайшоў дом сяброўкі, але каханай там не аказалася...

Трэба ж неяк дабірацца назад. У двары дома хлопец заўважыў ровар. Сеў на яго і паехаў у бок Гарадзілава.

Адлегласць паміж Бабровічамі і Гарадзілавым 34 кіламетры. Але даехаў хлопец толькі да валожынскай заправкі. Там яго заўважылі міліцыянеры, якія бачылі, як хлопец у бок Бабровічаў ішоў пешшу. Затрымалі. Маладзён прызнаўся, што ровар ён насамрэч скраў.

Справа перададзеная ў пракуратуру і суд.

– Па артыкуле 205, частка 1, Крымінальнага кодэкса Беларусі хлопцу пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі, – расказала "Рэгіянальнай газеце" следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

А пакуль хлопец шукаў прыгоды, яго дзяўчына ўжо была дома. Яны проста размінуліся ў дарозе.

**Наталля ТУР.**



Фота poembook.ru

**З самай раніцы хлопец пачаў чакаць сваю каханую. Чакаў-чакаў, а дзяўчыны ўсё не было. Бліжэй да вечара вырашыў ехаць па яе.**

## Як Кіркораў праз Ашмяны ехаў

АШМЯНЫ

**Пра гэта зорка расійскай эстрады ўласнаручна напісаў у сваім "Інстаграме".**

"Па традыцыі, я пачаў гастрольны тур шоу "Я" з Мінска.

...І пасля такога ашаламляльнага поспеху дзесяцітысячнай "Мінск-арэны", дзе не засталося ніводнага вольнага месца, мы сутыкнуліся з ашаламляльным хамствам...

Уначы нас, стомленых пасля канцэрта, пратрымалі на мытным пункце "Каменны Лог" больш за гадзіну. Некалькі разоў правяралі дакументы, прасілі выйсці з машыны, даглядалі. Прытым, самі ўсміхаліся – вось, Кіркорава "злавілі".

У выніку, стомлены калектыў дабраўся да Вільні толькі пад раніцу. Але на гэтым, як аказалася, начны кашмар не скончыўся. Чатыры вялікія фуры з афармленнем для сцэны – святлодыёдныя экраны, святло, дэкарацыі – так і засталіся на памежным пункце. Беларускія мытнікі не выпускаюць грузавікі з абсталяваннем. Да гэтага часу! Гэта працягваецца ўжо больш за палову сутак. Хамяць кіроўцам. Пагражаюць".

### Ашмянская мытня: мы працавалі, як належыць

Інцыдэнт пракаментавала прадстаўніца прэс-групы Ашмянскай мытні:

– На мяжу транспартныя сродкі Філіпа Кіркорава прыбылі раніцай, прыкладна ў 10:50 у сераду, 23 сакавіка.

У 11:15 спявак і яго суправаджэнне ўжо прайшлі пашпартны кантроль.

Машыны з канцэртным абсталяваннем прайшлі мытны дагляд прыкладна ў 11:50-12:30.

Ніхто спецыяльна не трымаў спевака на мытні. Мы працавалі, як належыць. Што датычыцца інфармацыі, што прадзюсары спевака сталі "быкаваць" і "качаць правы", я гэтага каментаваць не буду.

### Прэс-сакратар Кіркорава: пасля канцэрта ў Вільні мы праз Каменны Лог вяртацца не будзем

Прэс-сакратар Філіпа Кіркорава **Антон Корабаў-Зямлянскі** расказаў "РГ":

– Пасля тура па Прыбалтыцы Філіп дае канцэрт у Санкт-Пецярбургу, таму назад праз Каменны Лог мы не паедзем.

Прэс-сакратар адзначыў, што самае непрыемнае з затрымкай на мяжы ў тым, што людзі прыходзяць на канцэрт і высвятляюць, што канцэрт адменены.

– Прыхільнікі Філіпа Кіркорава ў Вільні з разуменнем паставіліся да сітуацыі, якая ўзнікла, але з 10 тысяч гледачоў з-за пераносу канцэрта білеты здалі ўсяго 200 чалавек – хто не змог бы трапіць на наступны дзень з-за сваіх планаў.

**– Ці адрэагавалі якнебудзь на гэты інцыдэнт беларускія ўлады? Таму што Філіп у сваім "Інстаграме" напісаў: "Спадзяюся, што Аляксандр Рыгоравіч не пакіне без увагі гэты інцыдэнт і вінаватыя будуць прыцягнутыя да адказнасці".**

– Нам пра такую рэакцыю пакуль невядома.

**Наталля ТУР.**

## Жанчына паліла смецце – загарэліся сем пабудоў

ВІЛЕЙКА

Каля апоўдня 28 сакавіка вілейскім выратавальнікам паступіла паведамленне аб узгаранні травы ў вёсцы Паняцічы Вязынскага сельсавета.

Калі падраздзяленні знаходзіліся ў дарозе, атрымалі інфармацыю пра тое, што ад травы загарэўся дом. Да месца пажару неадкладна выслалі дадатковую тэхніку.

Калі выратавальнікі прыбылі на месца здарэння, тры дамы і чатыры гаспадарчыя пабудовы гарэлі адкрытым полымем.

Як аказалася, 66-гадовая гаспадыня аднаго з лецішчаў наводзіла парадак на сваім прысядзібным участку. Смецце жанчына вырашыла спаліць у полі, у выніку чаго загарэлася сухая трава. Ад моцнага ветру агонь пачаў распаўсюджвацца ў бок дамоў.

За лічаныя хвіліны ён ахапіў дамы і хлявы на трох участках. У выніку пажару знішчаныя чатыры гаспадарчыя пабудовы і жылы дом. У двух дамах пад лецішча знішчаныя дахі.

**Паводле абласнога ўпраўлення МНС.**

ТЭМА НУМАРА



Жанчыны на Маладзечаншчыне жывуць у сярэднім на 10 гадоў больш за мужчын. Фота зробленае ў вёсцы Еленка. Фота Настассі РОЎДЫ.

# Маладзечанцы пасля 60 гадоў: едуць на адпачынак, шукаюць працу і жэняцца

**На мінулым тыдні стала вядома, што пенсійны ўзрост у Беларусі ўсё ж павысяць. Павышэнне пенсійнага ўзросту да 63 гадоў у мужчын, і 58 – у жанын пачнецца ад 2017 года.**

Але ці дазваляе здароўе беларусам працаваць да 58 і 63 гадоў? І ці запатрабаваныя людзі такога ўзросту на рынку працы? Спрабуем адказаць на гэтыя пытанні.

Па каментар мы звярнуліся да начальніка аддзела ЗАГС **Алы Івашкевіч:**

– Сярэдні ўзрост людзей, якія памерлі ў 2016 годзе ў Маладзечанскім раёне – 67 гадоў у мужчын і 76 гадоў у жанчын.

**У лютым 2016 года сярэдні ўзрост памерлых мужчын – 63 гады.**

Што датычыцца мінулага года, то з 1764 памерлых 409 былі працаздольнага ўзросту.

Ала Івашкевіч патлумачыла, што прычыны смерці маладзечанцаў – гэта ў асноўным хваробы.

– З 1122 жыхароў Маладзечна, якія памерлі ў 2015 годзе, прычынай смерці 899 чалавек стала якраз-такі хвароба. 104 чалавекі пайшлі з жыцця па старасці. Яшчэ 30 чалавек загінулі ў выніку няшчаснага выпадку.

Аднак жыццё на пенсіі, адназначна, не заканчваецца.

У пацвярджэнне гэтаму Ала Генадзьеўна прыводзіць статыстыку шлюбаў, зарэгістраваных у студзені – сакавіку гэтага года.

Са 127 шлюбаў шэсць пар ажаніліся, калі нявестам і жаніхам было больш за 50 гадоў. З іх былі тры пенсіянеркі і адзін пенсіянер.

– У такім узросце людзі жэняцца, як прызнаюцца яны самі, каб не быць у адзіноце. Была пара, якая расказвала, што іх другія палавінкі памерлі ўжо і каб не жыць адным, вырашылі ажаніцца. А яшчэ, – успамінае Ала Івашкевіч, – была пара, дзе жаніх даволі сталага веку не хацеў жаніцца, па ім гэта было відаць. Але калі распісаліся ў дакуменце, ён спытаўся ў сваёй "маладой жонкі": "Ну што, цяпер ты задаволеная?"

**Пенсіянеры едуць у Балгарыю і ў Грузію**

Мы патэлефанавалі ў дзве турыстычныя фірмы. Там нам адказалі, што ў сакавіку да іх звярнуліся па два пенсіянеры, замаўлялі турыстычныя пуцёўкі ў Балгарыю, тлумачылі, што там добрыя ўмовы для аздараўлення.

За ўсё лета 2015 года ў турыстычныя фірмы звярнуліся 10 людзей пенсійнага ўзросту. Яны, акрамя тых жа тураў у Балгарыю, замаўлялі турыстычную паездку ў Прагу і Грузію.

Прадстаўнікі турыстычных фірмаў звяртаюць увагу на тое, што калі да іх звяртаюцца людзі, старэйшыя за 60 гадоў, то гэта працуючыя пенсіянеры.

**Цэнтр занятасці: мы не дзелім людзей на пенсіянераў і не**

**На 1 сакавіка ў Маладзечне зарэгістраваны 1461 беспрацоўны.**

Начальнік аддзела занятасці і рынку працы **Людміла Пашчук** гаворыць:

– Вы ведаеце, якая цяпер сітуацыя склалася на рынку працы не толькі ў Маладзечне, але і ва ўсёй краіне. Калі гаварыць пра людзей, старэйшых за 50-гадовы ўзрост, то працу шукаюць 142 мужчыны і 53 жанчыны 50-52 гадоў. 53-54-гадовых мужчын – шукальнікаў працы – 106. Жанчын – 44. У 55-57-гадовым узросце 92 мужчыны хочуць уладкавацца на працу і адна жанчына. Ва ўзросце 58-59 гадоў 42 мужчыны працягваюць шукаць працу.

– На сённяшні дзень, – тлумачыць Людміла Пашчук, – каэфіцыент напружанасці ў Маладзечне складае 20 беспрацоўных на адно працоўнае месца. Інакш кажучы, на 1461 беспрацоўнага прыходзіцца 74 вакансіі.

Але, па словах Людмілы Баляслаўаўны, ёсць і станоўчыя навіны.

**У 2016 годзе за кошт адкрыцця новых прадпрыемстваў у Маладзечне з'явіцца каля 600 новых працоўных месцаў.**



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)





Уладзімір Сайко (злева) і аўтар кнігі "Нарачанскае рэха Вердэна" Генадзь Малышаў падчас прэзентацыі карціны.

## Мастак прысвяціў карціну 100-годдзю Нарачанскай аперацыі

МІНСК, МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

**У Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі 25 сакавіка адбылася прэзентацыя гісторыка-батальнай карціны, прысвечанай 100-годдзю Нарачанскай аперацыі.**

Стварыў яе малады мастак **Уладзімір Сайко**.

Падчас прэзентацыі карціны наведнікі маглі пагрузіцца ў атмасферу Першай сусветнай вайны – галоўным арганізатарам праграмы стаў ваенна-гістарычны клуб "Рубеж" з Брэста. Можна было пабачыць фотаздымкі з месцаў падзей фотамастака **Андрэя Мацура**. Прысутнічалі на прэзентацыі прадстаўнікі Вілейскага краязнаўчага музея, Мядзельшчыны.

**Праца над карцінай заняла два гады**

– Калі набыў свой першы аўтамабіль, то ведаў, што хутка накіруюся на бераг Нарачы, – расказвае Уладзімір. – Калі вандраваў, пабываў у мясцінах баёў, на могілках салдатаў рускай арміі ў вёсцы Чарэмшыцы, дзе ўзвышаецца вялікі дубовы крыж.

З'явілася задума стварыць карціну. Праца над маштабным палатном два на тры метры заняла два гады. Карціну назваў "Сібірскія стралкі".

– Маляўнічыя мясціны ператварыліся вясной 1916 года ў страшны тэатр мужнасці і адчаю, страху і гераізму, самаахвярнасці і непераадольнага імкнення выжыць – гэта ўсё павінна было быць на карціне, – дзеліцца мастак.

Малады жывапісец правёў сур'ёзнае даследаванне, збіраў дакументы, кансультаваўся з гісторыкамі і ўніфармістамі. Вёў дзённік, у які запісваў усе дэталі аб Другой арміі. Шукаў інфармацыю пра склад палкоў. Вывучаў фотаархівы. Своеасаблівым штуршком стала фатаграфія першага дня аперацыі з архіва **Іосіфа Стаброўскага**, пра якую расказвала "Рэгіянальная газета".

Пісаў шмат эцюдаў. Адразу намаляваў, як салдаты і афіцэры ішлі ў атаку з боку возера Нарач ля Занарачы. Але на палатне паказаная 5-я рота 3-га Сібірскага стралковага палка. Менавіта ў яе шэрагах была добраахвотніца з Масквы, 17-гадовая Яўгенія Варанцова. Яна здолела натхніць сваім гераічным прыкладам салдат. Павяла іх у атаку, якая стала для дзяўчыны апошняй.

Потым у кнізе Генадзя Малышава "Нарачанскае рэха Вердэна" знайшоў, што патрэбны полк удзельнічаў у баях на паўночны захад ад Пастаў. Таму зноў перапрацоўваў твор.

– Карціна – гэта мой унёсак, каб памяць пра Вялікую еўрапейскую вайну не была забытая. Каб Нарачанская аперацыя жыла ў сэрцах як мага больш людзей і асабліва моладзі, – кажа Уладзімір Сайко.

Алесь **ВЫСОЦКІ**.

## Дзяржкантроль ладзіць "прамую лінію" па працы водаканала

МАЛАДЗЕЧНА

"**Прамая лінія**" адбудзецца 6 красавіка.

Запланаваная тэма "гарачай лініі" – пытанні паслуг "Маладзечнаводаканала".

Пытанні, звязаныя з парушэннямі і недахопамі, а таксама прапановы, як палепшыць працу арганізацыі, можна перадаваць па тэлефоне **(80176) 77-14-54** ад 10 да 12 гадзін.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Унікальныя дакументы і абразы паказваюць на выставе ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

У выставачнай зале імя Сілівановіча 23 сакавіка адкрылася выстава "Летапісная стужка часу: з гісторыі праваслаўных храмаў Вілейшчыны".

Прысвечаная яна ўгодкам чатырох праваслаўных храмаў, якія адбудуцца сёлета.

Царкве Святых Сарака Пакутнікаў Севасційскіх у вёсцы Кастыкі спаўняецца 260 год, Свята-Мікалаеўскай у Латыгалі – 245. Гэтыя храмы – помнікі драўлянага народнага дойлідства. Яны ўнесеныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі – таксама, як і комплекс у вёсцы Ручыца (Ганута). Царква ў Кастыках адметная і тым, што гэта адзіная царква на Беларусі, асвячоная ў імя Святых Сарака Пакутнікаў Севасційскіх.

Летапіс царквы Святой Жывапачыльнай Тройцы ў Даўгінаве і Успенскай царквы ў вёсцы Ручыца налічваюць амаль паўтара стагоддзя – адпаведна 145 і 135 год.

На выставе прадстаўленыя прадметы не толькі з фондаў краязнаўчага музея: таксама перадалі іх на час выставы настаяцелі храмаў.

– Для нас на выставе ўнікальна ўсё: фотаздымкі, абразы, дакументы, царкоўныя рэчы, рызы святароў – усе тыя прадметы, якія паказваюць і расказваюць гісторыю гэтых старажытных праваслаўных храмаў на Вілейшчыне, – кажа старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**.

Кожнай царкве прысвечаны раздзел, размешчаны па ўзросце храмаў.

Падчас адкрыцця выставы пра гісторыю кожнага храма расказвалі дырэктар музея **Сяргей Ганчар** і супрацоўнікі **Вольга Коласава**, **Віктар Тонкавіч, Надзея Аўдзей**. Перадавалі слова настаяцелям.

– Гэта ў нас не першая выстава, прысвечаная храмам. Летась праводзілі выставу да 150-годдзя царквы Прападобнай Марыі Егіпецкай у Вілейцы, – працягвае Вольга Коласава. – Думаю, гэту працу працягнем і надалей – дзеля вывучэння і знаёмства з гісторыяй Вілейшчыны. Бо іх гісторыя непарыўна звязаная з гісторыяй Вілейскага краю. Цесная сувязь царквы і народа была заўжды. Храмы заўсёды з'яўляліся і з'яўляюцца не толькі духоўнымі цэнтрамі, але і цэнтрамі культуры і асветы.

Працягнецца выстава да 23 красавіка.

Алесь ВЫСОЦКІ.



**Цытаты са спектакля "Плачу наперад"**

* – Я кахаю вас 31 год. З перапынкамі, вядома. Думаеце, лёгка кахаць 31 год? Гэта ж якое цярпенне трэба мець! Мне абрыдла ўжо гэта каханне!

* – Чалавек створаны для шчасця, як птушка для палёту.

* – Паліна, услухоўвайцеся, а то прапусціце паварот лёсу і не паспееце ўпісацца.

* – Ды яна глядзела на мяне, а ў яе зрэнкі дрыжэлі ад кахання! А аказалася, што яна проста скакала з ложка ў ложак.

* – Ваш настрой, вашы планы, ваша жыццё залежаць ад грошай. Вы рабы грошай, а ваша пагарда да грошай падобная да пагарды раба да свайго гаспадара.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

# Мне абрыдла кахаць, таму ажаніцеся са мной за мільён долараў

МАЛАДЗЕЧНА

**Прэм'ерны спектакль "Плачу наперад" пра інтымныя таямніцы тэатра прадставіў Мінскі абласны драматычны тэатр 27 сакавіка.**

Спектакль пастаўлены па аднайменнай п'есе **Надзеі Птушкінай** і ў маладзечанскім варыянце атрымаў толькі касметычныя змяненні.

У 1999 годзе па гэтым жа сцэнары выпусцілі расійскі фільм. Але гэта гісторыя больш падыходзіць якраз для тэатра: тут няма месца відовішчнай карцінцы і дынаміцы. Увага засяроджваецца на адносінах, словах і тым, як першае і другое адбіваецца на героях.

Для рэжысёра **Венядыкта Растрыжэнкава** сёлетняя прэм'ера стала 14-м спектаклем, пастаўленым у Мінскім абласным драмтэатры. Гледачам вядомыя яго пастаноўкі "Псіхааналітык для псіхааналітыка", "Карона з кахання", іншыя.

### Пра каханне і прызванне ў эратычных уборах

Пастаноўка прывабная знешне. Прычым не толькі дзякуючы эратычным уборам жаночых персанажаў, але і прыемнаму гумару, які ўпрыгожвае канву спектакля.

Пастаноўка мае эфектны пачатак: галоўны герой акцёр Міхаіл прачынаецца пасля бурнай п'янкі. У кватэры няма жонкі Паліны, таксама актрысы. Затое ёсць разнявоненая апранутая Алімпіяда, якая сцвярджае, што ноч яны правялі разам у самым інтымным сэнсе. Яна апісвае ўчарашнюю ноч, і калі абодвух персанажаў распальвае да ўзаемнай жарсці, уваходзіць жонка з торбай апельсінаў.

"Плачу наперад" дэманструе тры асноўныя канфлікты: прызванне, каханне і шлюб, грошы.

Алімпіяда (Ліпа) – багатая жанчына, якая ўпэўненая, што купіць можна абсалютна ўсё. Яна пакахала Міхаіла 31 год таму, але, не атрымаўшы ўзаемнасці, несла гэтае пачуццё ў сабе. Яна стамілася, ёй "абрыдла кахаць", і таму жанчына прапануе ажаніцца на адзін год.

Алімпіяда ўпэўненая, што ніводнае каханне не можа перажыць шлюб, і плаціць за сваё збаўленне ад пачуцця мільён долараў.

Жонка Паліна жыла знешне ў шчаслівым шлюбе 20 год. Здаецца, усё ў парадку, але на самой справе яна ведае пра здрады мужа і лічыць сябе падманутай. Сам Міхаіл закаханы ў маладую актрысу Натусік, якая чакае дзіця. Ён на сёмым небе ад шчасця, пакуль не дазнаецца, што быў не адзіным у Натусік, і невядома, хто бацька яе дзіцяці. Натусік была шчаслівая, што нарэшце вырашыла: іншага кавалера, больш маладога і заможнага, яна кахае крышачку больш. А той даведаўся, што яна не была шчырай, і кінуў маладую жанчыну.

Героі прыходзяць да высновы, што самае шчаслівае каханне – у Алімпіяды. Рэальная прысутнасць каханага не магла б дадаць у яе гісторыю нічога. Пачуццё кіравала яе лёсам, зрабіўшы жыццё, поўнае прыгод.

Калі маеш адносіны з тым, каго кахаеш, немагчыма пакінуць каханне некранутым, як запакаваны падарунак. У адносінах пачуццё становіцца кавалкам гліны ў руках каханага. І ад яго рук залежыць, у што яно ператворыцца.

### Грошы кіруюць вамі ці вы кіруеце грашыма?

У другім ідэйным блоку палягае тэма грошай. Багатая Ліпа выпрабоўвае грашыма ўсіх іншых трох персанажаў. Паліна прымае прапанову адступных, кіруючыся спадзяваннем на лепшае жыццё сваёй дачкі. Натусік на вачах Міхаіла не толькі прымае грошы, але і прыходзіць па другую порцыю. Ды і сам Міхаіл растаптаны, паддаецца Ліпе. Усіх іх змяняюць грошы. Яны, адразу далёкія ад матэрыяльнага, прымаюць рашэнні пад уплывам грошай. Іх жыццём кіруюць грошы, і толькі Ліпа выкарыстоўвае грошы, каб кіраваць сваім.

Тэма прызвання раскрываецца праз адносіны герояў да тэатра, у якім працуюць трое персанажаў. Па сутнасці, гэта пафаснае прызнанне ў любові да тэатра і падкрэсліванне яго высокай ролі. Але нават самае значнае прызванне не пазбаўляе ад сумненняў, ці не раствараешся ў ім ты сам.

### Чаму спектакль варта паглядзець

Ідэйныя развагі падчас спектакля трапныя і зразумелыя, а атмасфера адначасова вытанчаная і гуллівая.

Акцёрская чацвёрка дэманструе чатыры полюсы: легкадумная і поўная энергіі Натусік у выкананні **Аляксандры Грасевіч** рэзануе са стомленай і стрыманай Палінай, якую іграе **Таццяна Карпец**. **Сяргей Карзей**, які выконвае адухоўленага і інтэлігентнага Міхаіла падкрэслівае практычнасць і разважлівасць Ліпы. Ад **Ірыны Кляпацкай** у гэтай ролі проста не адвесці вачэй. Яе гераіня атрымалася манернай, шчырай і прыцягальнай.

Работа касцюмераў вымагала разняволеных і яркіх убораў. Пры гэтым яны атрымаліся прыгожымі, але без перабору з вульгарнасцю. Грым і прычоскі падкрэслівалі характары гераінь – ракавінка для дзелавой Ліпы, завіўка ад бігудзі для сямейнай Паліны і модны банцік для Натусіка.

"Плачу наперад" – развага пра інтымныя таямніцы, якія часам не наважваешся абмеркаваць. Варта ўбачыць, як іх абмяркоўваюць маладзечанскія акцёры, каб стаць больш шчырым з самім сабой.

Зоя ХРУЦКАЯ.

### Каментар рэжысёра

З рэжысёрам **Венядыктам Растрыжэнкавым** мы сустрэліся пасля генеральнай рэпетыцыі.

– Тое, што на генеральны прагон прыйшлі гледачы, стала для мяне прыемным сюрпрызам. А смех гледачоў, апладысменты ўсцешылі.

Аказваецца, прэм'ера магла сарвацца:

– У зале вельмі халадна, а касцюмы ў акцёраў адкрытыя. Я быў гатовы адмяніць спектакль, таму што баюся за артыстаў. Але яны настойвалі, сказалі, што, нягледзячы ні на што, будуць іграць.

На пытанне, што найбольш падабаецца ў спектаклі, рэжысёр адказвае:

– Артысты больш за ўсё падабаюцца. Але ў добрага мяжы няма. Спектакль – гэта дзіця, якое з часам будзе развівацца. Я заўсёды стаўлю тое, што падабаецца, а ў гэты сцэнар проста закахаўся.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Юныя акцёры з Краснага



Фота Настассі РОЎДЫ.

Аўтар казак Алена Ліхадзіеўская.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Яна Страха выконвае ролю аўтара.

## У Красным школьнікі паставілі сцэнкі на казку мясцовай паэткі

МАЛАДЗЕЧНА

Паказ прайшоў у Красненскай сярэдняй школе ў пятніцу, 25 сакавіка.

Жыхары аднаго мястэчка аб'ядналіся і зрабілі агульную справу: **Алена Ліхадзіеўская** напісала вершаваныя казкі, а вучні Красненскай сярэдняй школы пад кіраўніцтвам настаўнікаў паставілі іх на сцэне.

Падчас прадстаўлення вядучая **Арына Камандзіга** распавяла пра кнігу "Казкі" паэткі Алены Ліхадзіеўскай. Яна змяшчае чатыры вершаваныя творы – "Суседзі", "Жук і Буслік", "Дарога да шпіталя" і "Лясны аўтамабіль". Красненскія школьнікі паставілі першыя дзве з іх.

Казка "Суседзі" пра тое, як Мышка з Кратом і Дзяцел з Савой змайстравалі ліфт, каб было прасцей трапіць да сяброў. Ролю Мышкі выканала **Мілана Трацяк**, Крата – **Яна Страха**, Дзятла – **Ксенія Астапенка**, а Саву сыграла **Анастасія Паланцэвіч**.

У казцы "Жук і Буслік" вучні адлюстравалі, што не варта пераацэньваць знешнасць. Ролю Жука выканала Мілана Трацяк, **Даша Арловіч** увасобіла Бусліка. Мастацкі кіраўнік пастановак – **Алена Халявінская**.

Алена Ліхадзіеўская падзякавала акцёрам і настаўнікам за прадстаўленне. Яе казкі атрымалі новае гучанне, калі з кнігі перайшлі на сцэну.

Галоўны рэдактар "РГ" **Аляксандр Манцэвіч** распавёў красненцам пра тое, чаму ім варта далучацца да чытачоў нашай газеты. Рака Уша ў Красным упадае ў Вілію, што робіць мястэчка адным з пунктаў, якія з'яднала газета беларускага Павілля.

У размове з карэспандэнтам "РГ" юныя артысты адзначылі, што казкі вывучылі на памяць вельмі хутка. Дзяўчынкі займаюцца ў літаратурным гуртку, на занятках якога прачыталі кнігу мясцовай паэткі. Вырашылі іх тэатралізаваць і ўжо выступілі з імі чатыры разы.

Казкі маюць зразумелы павучальны змест. "Суседзі" вучаць цаніць сяброўства, дапамагаць адзін аднаму. Даша жартаўліва апісвае казку "Жук і Буслік" так: "Як я высмейваю Мілану". Але школьніцы адразу дадаюць, што гэта спачатку, а пасля становіцца зразумела, што не трэба залішне хваліцца і любавацца сабой, нават калі лічыш сябе вельмі прыгожым. Бо знешні выгляд ніяк не адбіваецца на ўзаемаадносінах і сяброўстве.

Дзяўчынкі прызналіся, што перад пачаткам прадстаўлення крыху пабойваліся. Даша Арловіч дадала: "Ну, баялася, а як выступіла, то яшчэ раз захацела!"

У літаратурным гуртку ў школе вучні не толькі чытаюць чужыя творы, але і абмяркоўваюць першыя спробы свайго паэтычнага таленту. Тэатралізаваныя казкі школьнікі збіраюцца паказваць іншым красненцам, а таксама думаюць пра гастролі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Больш фота на сайце**

# Вядомая кампазітарка магла стаць будаўніком

МАЛАДЗЕЧНА

**29 сакавіка Алена Атрашкевіч адсвяткавала юбілей.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**За кулісамі падчас урачыстага канцэрта з нагоды надання гораду Маладзечна статусу культурнай сталіцы Беларусі. Кампазітарка Алена Атрашкевіч разам Аляксандрам Салаўёвым, які ўзяў Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў на X фэсце беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2009".**

Увечары напярэдадні святочнага дня "РГ" пагутарыла з Аленай Атрашкевіч пра ключавыя падзеі, якія ўжо адбыліся ў яе жыцці.

**– Памятаеце, як напісалі першую песню?**

– Напачатку мае песні былі досыць меладычнымі, складанымі, з шырокім дыяпазонам. Памятаю песню "Душа", якую напісала ў 10-11 класе, калі вучылася ў ліцэі пры кансерваторыі. Мне тады было гадоў 16. Гэта песня дагэтуль у рэпертуары маіх вучняў. Праз гады пасля напісання яна прагучала ў адной з перадач, на яе нават знялі кліп. А ўвогуле песні пачалі ў мяне з'яўляцца яшчэ раней, дзесьці ў 14 гадоў.

**– Як звычайна нараджаецца песня? Спачатку музыка ці словы?**

– У мяне літаральна чатыры-пяць песень, у якіх спачатку з'яўлялася музычная ідэя, а потым тэкст. Але ніколі не было такога, каб я пісала вакальны твор без тэмы. Для мяне ўсё ж такі першаснае слова.

**– На чым выхоўвалі свой музычны густ раней і што цяпер вам даспадобы?**

– Я атрымала класічную адукацыю, вучылася ў школе пры кансерваторыі, цяпер гэта гімназія-каледж. Мы слухалі вельмі шмат рознай музыкі, былі проста абавязаныя пазнаёміцца і з **Бахам**, і з **Гендэлем**, і з **Чайкоўскім**, і са **Скрабіным**. Я вельмі люблю творчасць усіх гэтых кампазітараў. Мне прывілі любоў да той музыкі, якая цэніцца, і не выпадкова, ва ўсім свеце.

Цяпер я слухаю не так шмат, але розную музыку. Больш даводзіцца слухаць сучасную, бо займаюся са спевакамі, якія развіваюцца ў эстрадным накірунку. Слухаю і **Крысціну Агілеру**, і **Джоша Гробана**. Песня – хуткацечны жанр. Сёння пішуць розныя песні, у тым ліку не вельмі добрыя, але яны становяцца папулярнымі. Век хуткаспевак кароткі. Не паспееш вокам міргнуць – з'яўляецца новая песня. І моладзь хоча спяваць яе. З'яўляюцца новыя накірункі ў жанры песні. Хоць у мяне ёсць пэўныя вызначаныя прыхільнасці ў музыцы, імкнешся сачыць за тым, што адбываецца ў музычным свеце.

Не так даўно была на канцэрце **Эраса Рамацоці** ў "Мінск-Арэне". Год таму была на канцэрце **Леаніда Агуціна**. Гэта музыка мне па душы, яна зразумелая, напісаная з добрым густам. Гэта калі гаварыць пра поп-музыку.

**– Што павінна быць у добрай песні?**

– Добрая думка. Гэта тычыцца і слоў, і мелодыі. Гармонія мусіць быць даволі цікавай. Я ўсё больш разумею, што песня павінна быць зразумелай многім, але не прымітыўна зразумелай. Патрэбная разынка, тады ў песні ёсць шанец стаць любімай, папулярнай вялікай колькасці слухачоў.

**– Якія самыя ключавыя моманты ў вашай творчай біяграфіі?**

– Я па жыцці так іду, крыху назад азіраюся, аналізую, хаця, шчыра кажучы, бывае, не памятаю, што было тыдзень таму, бо ў той жа час іду наперад. Важным было тое, што мяне мае бацькі аддалі ў музыку, за што я ім вельмі ўдзячная. Яны самі жылі ў горадзе Чашнікі Віцебскай вобласці, але адвезлі мяне за 200 кіламетраў у Мінск. Я з васьмі гадоў вучылася ўдалечыні ад бацькоў. Не кожныя рашацца вось так адпусціць. Тое, што пасля заканчэння ліцэя я паехала вучыцца ў Санкт-Пецярбург. Што праз маё жыццё прайшлі такія вялікія педагогі, як кампазітар **Кім Дзмітрыевіч Цесакоў**, музыказнаўца **Маргарыта Сяргееўна Мінянкова**, прафесар Ленінградскай кансерваторыі **Барыс Аляксандравіч Арапаў**. Мой першы кампазітарскі досвед быў звязаны і праходзіў пад негалосным наглядам **Віктара Уладзіміравіча Роўды**. Канешне, многія музыканты, з якімі я цяпер супрацоўнічаю. У першую чаргу **Міхаіл Якаўлевіч Фінберг**. Сваім строгім позіркам на творчасць, на творчых людзей ён вымушае кампазітараў, якія працуюць у жанры песень, заўсёды быць у тонусе. У тым ліку і мяне.

Падзеяй быў мой творчы вечар, які адбыўся ў філармоніі ў 2001 годзе, дзе адна з галоўных роляў была ў аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Якаўлевіча Фінберга.

Значным было ўступленне ў Саюз кампазітараў, мая педагагічная дзейнасць і многае іншае. І я лічу, што ўсё яшчэ наперадзе.

Мне пашчасціла – маё жыццё вельмі насычанае. Нічога не адкідаю, усё для мяне значнае, усё цаню. І сваіх вучняў вучу цаніць тое, што яны маюць.

**– Кім марылі быць у дзяцінстве? Ці думалі, што ў вас наперадзе такі цікавы творчы шлях?**

– Я ўжо ў 11 гадоў зразумела, што буду музыкантам. Пачала пісаць першыя творы, адчула творчы сверб. Калі разумееш, што хочаш штосьці стварыць, музыка гучыць, а навыкаў, каб запісаць яе, вось так хутка і добра, яшчэ недастаткова. Ужо тады я хацела быць кампазітарам. Але адначасова хацела быць і будаўніком. На самой справе, я ўмею класці цагліны, клеіць шпалеры, рабіць нейкія іншыя сур'ёзныя рэчы, так па жыцці склалася. Але дзякуй богу, што пайшла ў кампазітары. Хаця напісанне музыкі – гэта таксама свайго роду будаўніцтва. Ёсць некалькі нот, а я бяру і ствараю свой будынак, такі, якога яшчэ не было. Цудоўны дом пад назвай "Музычны твор".

**– Якую жыццёвую параду вы б далі чытачам?**

– Я параіла б людзям быць удзячнымі. Удзячнымі жыццю, тым, хто побач. Параіла б шукаць светлыя бакі жыцця. Розныя ёсць абставіны, але бывае, чалавек сам сабе ўскладняе жыццё. Я лічу, што трэба марыць пра жураўля ў небе, але, калі ёсць сініца ў руках, любіць гэту сініцу. Не зайздросціць, бо зайздрасць – вельмі цяжкае пачуццё. І навучыцца радавацца за іншых. Я імкнуся прытрымлівацца гэтых маральных асноў. Адчуваю сябе… Не магу сказаць, што шчаслівым чалавекам. Але я знаходжуся недзе ў гэтым баку.

**– Паколькі гаворым з нагоды дня нараджэння, не магу не запытацца, што для вас лепшы падарунак?**

– Мабыць, разуменне таго, што камусьці патрэбны. Не рэчы, не каштоўныя падарункі. Я не вельмі люблю каштоўныя падарункі і ўвогуле да сябе ўвагу, асабліва ў такі дзень. А вось цёплае слова, сказанае ў твой адрас, калі ты разумееш, што яно шчырае… Я магу падацца сентыментальным чалавекам, несучасным, але ўсё ж такі гэта важныя рэчы. Усё астатняе рана ці позна можна набыць. А ўвагу сяброў, разуменне, што ты ў гэтым жыцці камусьці патрэбны, і гэта не адзін і не два чалавекі, вось гэта самы вялікі падарунак у жыцці.

Тры гадзіны таму мяне спрабавала павіншаваць мая матуля, ёй 84 гады, але мы дамовіліся, што яна ўсё ж такі павіншуе мяне заўтра ў 7 раніцы, – кажа Алена Віктараўна, калі мы развітваемся. І я віншую яе з днём народзінаў.

**Настасся РОЎДА.**

Даведка "РГ". **Алена Атрашкевіч.** Нарадзілася 29 сакавіка 1966 года ў Нова-Барысаве, цяпер у межах Барысава.

# У двух падлеткаў знайшлі туберкулёз дзякуючы новаму прэпарату

МАЛАДЗЕЧНА

**Дыяскінтэст летась дапамог убачыць хваробу там, дзе яе не вызначыў рэнтген.**





Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

У Сусветны дзень барацьбы з туберкулёзам, 24 сакавіка, у Маладзечне "Пульмаскан" працаваў на пешаходнай вуліцы.

У 2015 годзе на Маладзечаншчыне ўпершыню праводзілі прафілактыку туберкулёзу пры дапамозе новага сродку.

Менавіта станоўчы вынік дыяскінтэста падштурхнуў дыягностыку. Хлопцаў праверылі на камп'ютарным тамографе, які пацвердзіў туберкулёз.

У аднаго з іх ён развіўся на фоне здароўя. Ніхто б і не западозрыў хваробу, калі б не прафілактычны агляд для падлеткаў. Хлопец узяў на год акадэмічны адпачынак, падчас якога паспяхова вылечыўся.

Другі трапляў у групу тых, каму туберкулёз пагражае. Але зноў жа, хваробу не знайшлі пры звычайнай флюараграфіі. Аказалася, хлопец захварэў на форму з множнай лекавай устойлівасцю. Такая форма не паддаецца звычайным лекам, таму яму даводзіцца лячыцца два гады па спецыяльнай праграме.

Множная лекавая ўстойлівасць – мутацыя туберкулёзу, якая выпрацавалася праз нядобрасумленных пацыентаў. Пры лячэнні хворыя павінны прымаць дакладны курс лекаў, але некаторыя спыняюць іх прыём. Тады мікабактэрыя не памірае, а выпрацоўвае ўстойлівасць да тых лекаў, якія непрыняў пацыент.

Такі хворы заражае іншых адразу туберкулёзам з множнай устойлівасцю, якую не вылечыш лекамі першага пакалення. Ён патрабуе больш моцных прэпаратаў.

### Што такое дыяскінтэст

Гэта прадукт геннай інжынерыі, выпрацаваны расійскімі вучонымі. У яго складзе ёсць бялкі, спецыфічныя менавіта для туберкулёзнай палачкі. Таму станоўчая рэакцыя магчымая толькі ў тых выпадках, калі ў арганізме ёсць патагенныя мікабактэрыі.

Дакладнасць тэста складае 98%, а проба Манту – каля 60%.

Тыя, у каго проба Манту паказала станоўчы вынік, не заўсёды з'яўляюцца хворымі. Менавіта таму на дапамогу прыходзіць дыяскінтэст, які валодае большай дакладнасцю. Ён не замяняе пробу Манту. Яго выкарыстоўваюць пасля станоўчай рэакцыі на пробу, каб яе пацвердзіць ці абвергнуць. Важна выкарыстоўваць дыягнастычныя магчымасці ў комплексе, каб атрымаць дакладны дыягназ. Спачатку зрабіць пробу Манту. Калі яна станоўчая – выканаць дыяскінтэст. Калі станоўчы і ён, прайсці камп'ютарны тамограф.

– Я надаю вялікае значэнне карысці дыяскінтэста, – падкрэслівае загадчыца дыспансернага аддзялення Маладзечанскага супрацьтуберкулёзнага дыспансера **Тамара Навіцкая**. – Не забывайце пра пазалёгачныя формы хваробы, напрыклад, туберкулёз пазваночніка. Гэты прэпарат знаходзіць тое, што не вызначае рэнтген. Напрыклад, саркаідоз і клінічна, і на рэнтгене вельмі падобны да туберкулёзу, а дыяскінтэст вызначыць дакладны дыягназ.

У 2015 годзе новым прэпаратам абследавалі каля дзвюх тысяч жыхароў Маладзечаншчыны. Паводле загада Міністэрства аховы здароўя, ім правяраюць падлеткаў, дзяцей і тых, хто трапляе ў групу рызыкі.

Тамара Навіцкая лічыць, што дыяскінтэстам варта правяраць не толькі тых, хто трапляе ў групу рызыкі. З тых двух хлопцаў, у якіх знайшлі мікабактэрыю, толькі адзін у гэтай групе, другому проста пашанцавала прайсці прафілактычны агляд. У Маладзечанскім супрацьтуберкулёзным дыспансеры дыяскінтэст праводзяць па пятніцах ад 9 да 11 гадзін.

### "Пульмаскан" бяспечней за сонца

Загадчыца дыспансернага аддзялення супрацьтуберкулёзнага дыспансера занепакоеная, што прафілактыка хваробы звужаецца:

– Адмянілі агляд у 14 год, ад мая адмяняюць у 7. І застаецца толькі прышчэпка, якую робяць у радзільні. Мы можам прапусціць хваробу на яе пачатку.

Колькасць хворых на туберкулёз застаецца стабільнай, але павялічваецца колькасць пацыентаў з множнай лекавай устойлівасцю. Павялічылася і колькасць тых, у каго адначасова і ВІЧ, і туберкулёз. Хвароба маладзее, хаця сярод пацыентаў сустракаюцца і пенсіянеры.

Яшчэ адзін спосаб вызначыць хваробу – даследаванне макроты. Ім карыстаюцца звычайна для тых, хто не можа хадзіць. Для тых, хто пазбягае рэнтгена, гэта можа стаць хіба што вельмі марудны альтэрнатывай. Даследаванне трэба рабіць тройчы, і вынік кожнага з іх чакаць два месяцы. Атрымліваецца, што адказ чалавек атрымае толькі праз паўгода. Таму для дарослых найлепш сродкам кантраляваць сваё здароўе застаецца флюараграфія.

Тамара Навіцкая таксама прапануе маладым мамам не баяцца прышчэпкі ў раддоме:

– Мы не ўводзім чужародны прэпарат, а толькі антыген, які не аслабляе імунітэт. Не трэба баяцца і флюараграфіі – мы працуем з сучаснымі "Пульмасканамі", выпраменьванне якіх не перавышае дозу радыяцыі ад звычайнага яркага сонца.

Загадчыца супрацьтуберкулёзнага дыспансера раіць быць пільнымі ў прафілактыцы туберкулёзу, таму што хвароба можа быць адначасова незауважнай і небяспечнай.

Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ.

## Жыхары заплацяць падатак за сабак

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

**У сакавіку ў трох раёнах рэгіёна на Міншчыне ўступілі ў сілу рашэнні раённых Саветаў дэпутатаў аб устанаўленні падатку за валоданне сабакамі.**

Паводле Нацыянальнага прававога інтэрнэт-парталу Беларусі дата ўступлення ў сілу рашэння Вілейскага райсавета дэпутатаў – 13 сакавіка, Валожынскага і Мядзельскага – 23 сакавіка.

А ў Маладзечанскім раёне адпаведнае рашэнне ўступіла ў сілу яшчэ два месяцы таму.

**Колькі заплацяць аматары сабак?**

Плаціць падатак павінны будуць тыя, у каго ўтрымліваюцца сабакі ва ўзросце з трох месяцаў і старэйшыя.

Стаўкі падатку за сабак устанаўліваюцца ў залежнасці ад вышыні ў карку:

да 40 сантыметраў – 0,05 базавай велічыні (10 500 рублёў) за кожны месяц падатковага перыяду;

ад 40 да 70 сантыметраў – 0,1 базавай велічыні (21 000 рублёў);

70 і больш сантыметраў, а таксама калі пароды сабак ўключаны ў пералік патэнцыйна небяспечных парод, – 0,5 базавай велічыні (105 000 рублёў).

**Хто вызваляецца ад падатку?**

– інваліды па зроку, для якіх утрыманне сабакі-павадыра з'яўляецца жыццёвай неабходнасцю;

– непрацуючыя пенсіянеры па ўзросце і інваліды першай і другой груп пры адсутнасці рэгістрацыі па месцы іх жыхарства працаздольных членаў сям'і, абавязаных па законе іх утрымліваць; ветэраны Вялікай Айчыннай вайны; асобы, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў; асобы, якія маюць на ўтрыманні трое і больш дзяцей ва ўзросце да 18 год, – за адну сабаку;

– жыхары аднакватэрных, блакіраваных жылых дамах, пры ўмове, што сабакі не з'яўляюцца крыніцай атрымання даходаў.

Плаціць падатак за ўтрыманне сабак трэба арганізацыям, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і (або) прапануюць жыллёва-камунальныя паслугі, адначасова з унясеннем платы за гэтыя паслугі.

Падатковым перыядам прызнаны каляндарны квартал.

Аддзел інфармацыі паводле pravo.by

## Як не заплаціць за ляшча і шчупака амаль два мільёны рублёў

Ад 1 красавіка да 30 мая на час нерасту забараняецца лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях Міншчыны.

На вадаёмах Віцебшчыны, да якіх адносіцца возера Вялікія Швакшты Нацпарку "Нарачанскі", лоўля рыбы забароненая ад 10 красавіка да 8 чэрвеня.

У гэты перыяд дазваляецца аматарскае рыбалоўства толькі адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, падвойным або трайным кручком у светлы час сутак з берага і са штучных збудаванняў, без заходу ў ваду. Таксама забараняецца выкарыстанне маламерных суднаў.

Лавіць шчупака забаронена да 15 красавіка, а на вадаёмах Віцебскай вобласці да 25 красавіка. Ад 15 красавіка да 30 мая ўстаноўлена забарона на лоўлю судака.

Выкарыстанне забароненых прылад ці спосабаў лоўлі рыбы цягне за сабой штраф ад 20 да 50 базавых велічынь. Акрамя гэтага давядзецца кампенсаваць нанесеную навакольнаму асяроддзю шкоду – у трайным памеры па кожным канфіскаваным ці знішчаным віду рыбы.

Адна асобіна незаконна здабытых плоткі або акуня абыдзецца парушальніку ў 630 тысяч рублёў, а ляшча або шчупака – у мільён 890 тысяч рублёў.

**Калі памер шкоды складае больш за 100 базавых велічынь, надыходзіць крымінальная адказнасць.**

У дадзеным выпадку адказнасць больш суровая, да пазбаўлення волі да трох год.

Пра браканьерства можна паведаміць па тэлефоне **8-01797-50-7-40.**

**Уладзімір ХІЛА, старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

НАВІНЫ

## Маладзечанскі раён у другой лізе прадставяць дзве каманды

МАЛАДЗЕЧНА

**Мікалай Шрымф**, намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама, пацвердзіў інфармацыю пра тое, што каманда "Маладзечна ДЮСШ-4" прыме ўдзел у рэспубліканскіх спаборніцтвах.

Каманду, як і ў мінулым годзе, ўзначаліць **Аляксандр Гармаза.**



Аляксандр Гармаза.

– Яна будзе гуляць на такіх жа ўмовах, як і летась, – кажа Мікалай Уладзіміравіч. – Мы пра гэта гаварылі з трэнерам, ён пагадзіўся. У гэтыя выхадныя каманда едзе гуляць у Дзяржынск.

Стала вядома, што і каманда з Чысці, "Забудова", таксама будзе заяўляцца ў другую лігу.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў начальнік каманды "Забудова" **Мікалай Мятліцкі.**

– Учора ў мяне адбылася сустрэча з дырэктарам "Забудовы-Буд". Ён выслухаў прапановы і папрасіў цягам двух дзён прадставіць яму каштарыс. Калі ўлічыць тое, што сума ад абласнога чэмпіянату адрозніваецца не моцна, то можна выказаць здагадку, што пытанне вырашыцца на карысць другой лігі.

Наталля ТУР.

## "Смаргонь" згуляла ўнічыю з "Іслаччу"

СМАРГОНЬ

У Смаргоні на стадыёне ДЮСШ у мікрараёне "Заходні" 26 сакавіка мясцовы футбольны клуб правадзіў чарговы таварыскі матч. "Смаргонь" прымала дэбютанта вышэйшай лігі – "Іслач".

Смаргонцы забілі хуткі гол. На 14-й хвіліне **Сяргей Крот** прабіў па варотах. Галкіпер гасцей не ўтрымаў мяч, і **Дзмітры Вавілаў** першым паспеў на дабіванне.

Больш забітых галоў у першай палове матча гледачы не ўбачылі. Затое ўбачылі незабіты пенальці. Удар **Аляксандра Лебедзева** адбіў галкіпер смаргонцаў **Павел Давыдаў**, паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" Уладзімір Амбрасевіч.

Праз 10 хвілін пасля перапынку зноў вызначыўся футбаліст "Смаргоні" Сяргей Крот. Праўда, забіў ён гол у свае вароты, калі выносіў мяч з варатарскай.

На 71-хвіліне "Іслач" выходзіць наперад 2:1.

Смаргонцы зраўнялі лік праз чатыры хвіліны. **Аляксандр Клешчанок** выйшаў адзін на адзін з галкіперам і забіў гол, дадаў Уладзімір Амбрасевіч.

Матч так і завяршыўся – 2:2.

## Вілейскі плывец перамог на Алімпійскіх днях моладзі

ВІЛЕЙКА

У Пінску ад 15 да 19 сакавіка прайшлі Алімпійскія дні моладзі Беларусі па плаванні. Удзельнічалі ў ім юніёры 2000-2001 г. н. і юніёркі 2002-2003 г. н.

Навучэнец СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Яўген Маліноўскі** ў складзе каманды Мінскай вобласці заняў першае месца у эстафеце 4 па 100 метраў вольным стылем.

Яшчэ адзін віляйчанін **Ягор Яхімовіч** на дыстанцыі 100 метраў вольным стылем выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту.

Трэніруюць іх **Галіна Перапечына** і **Яўгенія Асмалоўская**. Пра гэта паведаміў намеснік дырэктара СДЮШАР **Аляксей Тарбееў**.

## Вызначыліся ўсе паўфіналісты

МЯДЗЕЛ

На мінулым тыдні адбыліся чвэрцьфіналы чэмпіянату Мядзельскага раёна па міні-футболе. "Юнацтва" выйграла ў райвыканкама 2:0. А матч паміж "ІП Мядзел" і "Сілавіком" выдаўся больш упартым.

Гульня ішла на роўных, і асноўны час завяршыўся ўнічыю 2:2. Барацьба працягнулася ў авертаймах.

– У першым з іх "ІП Мядзел" вырываецца наперад 3:2, – расказаў інструктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Кірыл Сенеў**. – У другім авертайме гульцы "ІП Мядзел" забілі яшчэ два галы. Вынік 5:2 на іх карысць – і "ІП Мядзел" у паўфінале.

Каманды "Зубраня" і "Спадарожнік" адразу выйшлі ў паўфінал па выніках папярэдняга этапу.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Перамозе ў турніры радуецца каманда Балтыйскай футбольнай акадэміі з Вільні. Фота забяспечанае Уладзімірам АМБРАСЕВІЧАМ.

# Смаргонскімі абаранкамі частавалі футбалістаў з 4-х краін

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

**Маштабны турнір ад 24 да 26 сакавіка сабраў у Смаргоні юных футбалістаў – першы Міжнародны турнір па футболе Smorgon bear 2016.**

Удзельнічалі ў ім гульцы 2005 і 2006 гадоў нараджэння.

У турніры прынялі ўдзел каманды з чатырох краін. Тры каманды прыехалі з Вільні, дзве з горада Вялікія Лукі ў Расіі, адна з горада Курэсаарэ з Эстоніі. Астатнія каманды былі з Беларусі, сярод іх – і з ДЮСШ Маладзечна. Тры каманды выставілі гаспадары – Смаргонская ДЮСШ па футболе.

Гульні праходзілі на штучным полі ДЮСШ. Першыя сустрэчы паміж камандамі адбыліся ранкам 24 сакавіка і працягнуліся пасля ўрачыстага адкрыцця.

Урачыстае адкрыццё пачалося шэсцем каманд. Увасчальваў яго сімвал турніру – смаргонскі мядзведзь. Юных футбалістаў сустрэлі смачнымі караваямі і знакамітымі смаргонскімі абаранкамі, паведаміў намеснік дырэктара па вучэбнай частцы Смаргонскай ДЮСШ па футболе **Іосіф Жылко**.

На працягу трох дзён хлопцы змагаліся за перамогу. У выніку сярод хлопчыкаў 2005 года нараджэння перамагла каманда ДЮСШ Полацка. На другім месцы – юныя смаргонцы .Трэцяе месца – на рахунку каманды "Granitas" з Вільні.

Першае месца ў групе 2006 года нараджэння заняла каманда Балтыйскай футбольнай акадэміі з Вільні. Другое і трэцяе месцы адпаведна ў ФК "БАТЭ" з Барысава і СДЮШАР "Белкард" з Гродна.

Каманды-прызёры ўзнагародзілі кубкамі і граматамі, а ўдзельнікаў – медалямі. Вызначылі і лепшых гульцоў турніру. Сярод іх ёсць і смаргонцы. Паміж хлопчыкаў 2005 года нараджэння **Арцём Станкевіч** стаў лепшым нападаючым, **Данііл Янч** – лепшым абаронцам.

Сярод гульцоў 2006 года нараджэння **Назар Курак** заваяваў званне "лепшага нападаючага".

– Усе ўдзельнікі цёпла адгукаліся аб турніры і выказалі глыбокую падзяку яго арганізатарам. Перад ад'ездам прадстаўнікі ўсіх камандаў выказалі пажаданне часцей сустракацца на падобных спаборніцтвах, – дадаў Іосіф Жылко.

Аддзел інфармацыі.

ХАКЕЙ

# "Дынама-Маладзечна" завяршае сезон

МАЛАДЗЕЧНА

Завяршылі, як заўсёды, весела і з настроем. Сяброўскай сустрэчай з маладзечанскай хакейнай камандай "Дэльта".

Матч атрымаўся нестандартным: два перыяды па 30 хвілін. І акурат у гэтыя хвіліны ўсе тыя, хто прыйшоў на матч, маглі даваць парады гульцам або задаваць ім пытанні.

Заўзятары каманды "Дынама-Маладзечна" даведаліся, што любімая кніжка ў абаронцы **Багдана Зазона** – "50 адценняў шэрага".

Многія дынамаўцы цяпер знаходзяцца ў нацыянальнай зборнай, таму "бела-сінія" гулялі не ў поўным складзе. Тыя, хто ўсё ж не прайшоў у асноўны склад, без справы не засталіся. Проста перад матчам яны былі камандзіраваныя ў каманду "Дэльта". Адным з такіх "камандзіраваных" стаў **Эдуард Грынь**. Нападаючы паставіўся да гэтага з гумарам, маўляў, у сезоне не заўсёды ў склад асноўны праходзіў, а тут нават у таварыскім матчы не трапіў.

Хаця гульня была сяброўская, але атмасфера на пляцоўцы панавала сапраўды азартная. Адыграцца і выйсці наперад дынамаўцы змаглі толькі за пяць хвілін да заканчэння сустрэчы. Здавалася, перамога ўжо ў руках, але за некалькі секунд да фінальнай сірэны, намаганнямі ўсяго складу "Дэльты", а гэта 25 чалавек, сапернікі ўсё ж адыграліся. Выніковы лік – 12:12.

Варатар каманды "Дэльта" **Вячаслаў Арлоўскі** падзяліўся эмоцыямі пасля гульні:

– Мне было вельмі цікава гуляць з камандай "Дынама-Маладзечна". Нягледзячы на тое, што яны і паддаваліся, але гэта ўсё роўна вельмі крута – гуляць з прафесіяналамі. Мае некаторыя таварышы па камандзе нават нерваваліся перад гульнёй. "Дынамаўцы" вельмі прыязна сябе паводзілі, было відаць, што ім не ў цяжар павадзіцца з аматарамі, а нават наадварот. А гульцоў з "Дынама", якія жадаюць за нас паігуляць, аказалася нават больш, чым мы маглі ўзяць.

Асабліва спадабаліся дзяўчаты з групы падтрымкі. На агульным фотаздымку я сядзеў бліжэй за ўсіх да дзяўчат, і ўсе астатнія хакеісты мне зайздросцілі.

Наталля ТУР.

ТЭАТРЫ

# Мінскі абласны драматычны тэатр



**РЭПЕРТУАР НА КРАСАВІК**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Всё будет хороШОУ!"** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
5 красавіка – у 12:00

**"Кошкі-Мышкі"** (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
28 красавіка – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Плачу наперад"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
6, 22 красавіка – у 19:00
Рэцэнзію на спектакль "Плачу наперад" чытайце на 6-й старонцы.

**"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), *Юры Вута*
8 красавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Дзядзечкаў сон"** (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
13 красавіка – у 19:00

**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

**"Лясны дэтэктыў, ці Хто ўкраў святлафор"** (развіццёвая казка для дзяцей), *Н.Сініна*
16 красавіка – у 12:00

**"Вось табе і гоцаца"** (камедыя ў 2-х дзеях), *У.Галубок, А.Чужынін*
16 красавіка – у 17:00

**30-Й ГАДАВІНЕ АВАРЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС ПРЫСВЯЧАЕЦЦА**

**"Падобны на Стынга"** (спектакль-рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
26 красавіка – у 19:00

**"Памяць, за сабой пакліч..."** (музычна-драматычны спектакль)
28 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА КРАСАВІК**

**"Тры парсючкі"** (музычная казка), *І.Сідарук*, бел.
3 красавіка – у 12:00

**"Спячая прыгажуня"** (казка-сон), *У.Мятальнікаў*, бел.
10 красавіка – у 12:00

**17 – 19 КРАСАВІКА – ГАСТРОЛІ ТУЛЬСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА ЛЯЛЕК**

**"Воўк і сямёра казлянят"** (вясёлы дзіцячы мюзікл), *С.Буракоў*, рус.
17 красавіка – у 12:00

**"Страшнік Гам"** (музычная казка), *П.Васючэнка*, бел.
24 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

АФІША

# "РГ" стане вашым кансультантам, як найлепш правесці адпачынак

**Галівудскія зоркі звяртаюцца па паслугі да спецыяльных кансультантаў, якія раяць ім, як бавіць вольны час. Для вас такім кансультантам станем мы.**

Для чытачоў мы заўсёды імкнёмся прапаноўваць толькі самае лепшае, шануем ваш час і дапамагаем прыняць правільнае рашэнне сярод шэрагу прапаноў. Менавіта таму мы распачалі адмысловую рубрыку "Афіша", якая стане вашым гідам па выбары адпачынку.

У бліжэйшыя тыдні мы раім маладзечанцам і гасцям горада абавязкова наведаць тэатры. Сезон хутка закончыцца, таму не прапусціце магчымасць схадзіць з дзецьмі ў "Батлейку". Дарослым вельмі рэкамендуем прэм'еру Мінскага абласнога драматычнага тэатра "Плачу наперад", рэцэнзію на якую чытайце на 6-й старонцы.

Для аматараў кіно мы выбралі самыя цікавыя, на наш погляд, прапановы кінатэатраў "Радзіма" і "Мір". На нашым сайце rh.by вы знойдзеце пашыраную версію афішы, а таксама рэпертуар тэатраў і кінатэатраў.

КІНО МАЛАДЗЕЧНА

## "Радзіма": што адбудзецца з каханнем, якое спынілі сто год таму?

Папулярны расійскі спявак Дзіма Білан паўстане перад кінааматарамі ў абсалютна новым вобразе. Ён сыграў галоўнага персанажа ваеннай драмы **"Герой"** – паручніка Андрэя Далматава. У фільме сплятаюцца дзве гісторыі.

У адной з іх – пачатак 20 стагоддзя. Паручнік Андрэй Далматаў знаёміцца з маладой і прыгожай княжной Верай Чарнышовай. Але здарылася катастрофа. Першая сусветная вайна вымагае маладога чалавека ісці на вайну, а дзяўчыну стаць медсястрой у шпіталі. Свет стаў іншым, і за адной вайной следам ідзе другая. Людзі дзеляцца на два варагуючых лагеры.

Але каханне мае такую моц, якая злучае некалькі пакаленняў і нагадвае пра сябе праз сто год. Драма, у якой сплятаюцца розныя часы, лёсы і пачуцці, мае шанцы стаць адной з самых яркіх расійскіх прэм'ер года.

Іншая расійская прэм'ера гэтага тыдня – камедыя **"Памятаю – не памятаю"**. Яе аўтары дадалі яшчэ адну карціну ў пухнатую скарбонку фільмаў пра абмен целамі.

У гэтым кіно целамі мяняюцца сарамлівая бібліятэкарка Алёна, якая марыць сыграць Джульету ў тэатры, і шыкоўная бландзінка Ліза, якая марыць пра новага мужа. Акцёрскі склад карціны статусны. Таму нясвежую ідэю могуць кампенсаваць смешныя жарты і вядомыя акцёры.

Сем'ям з дзецьмі дарэчы будзе адпачынак з мультфільмам **"Смяшарыкі. Легенда аб залатым драконе"**. Аўтары "Смяшарыкаў" не расчаруюць сцэнарыем дарослых, а дзеці будуць у захапленні ад стракатай карцінкі, у меру небяспечных прыгод і зразумелага гумару. Пры гэтым мультфільм мае празрыстыя павучальныя пасылы.



Фота worldofwomen.su.

Кадр з фільма "Герой".

КІНО ВІЛЕЙКІ

## "Мір": непараўнальны Гек Фін ці развітанне з Сусветам

Гэтак жа, як і маладзечанскі кінатэатр, вілейскі "Мір" прапануе вартыя ўвагі карціны – "Герой", "Смяшарыкі. Легенда аб залатым драконе" і камедыю "Памятаю – не памятаю". Да гэтага дадаюць менш папулярныя, але больш аб'ёмныя па змесце прапановы.

У вілейскім кінатэатры на сябе звяртае ўвагу экранізацыя бліскучай кнігі Марка Твэна – фільм **"Прыгоды Гекльберы Фіна"**. Сапраўдным кінагурманам мы раім не прапусціць фільм **"04:44 Апошні дзень на Зямлі"**. Гэта вытанчанае фантазія, як пражывала б свае апошнія гадзіны чалавецтва. Калі вы хочаце атрымаць рашучае натхненне і паразважаць над сваім унёскам у Сусвет, маеце найлепшы выбар.

**Аддзел інфармацыі.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | 4 | 6 | 3 | | |
| | | 3 | | | 7 | | 8 | |
| 9 | | | | | | | 4 | |
| | | 8 | | | 5 | 9 | 1 | |
| 5 | | | | | | | | 3 |
| | 1 | 4 | 3 | | | 5 | | |
| | 2 | | | | | | | 1 |
| | 9 | | 7 | | | 8 | | |
| | | 7 | 9 | 8 | | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



*Па просьбах нашых чытачоў мы вяртаем рубрыку "Як зварыш, так і з'ясі". Сённяшні госць – маладзечанка **Наталля Скібіна**. Яна ўжо шмат год жыве ў Грэцыі, трымае свой рэстаранчык і прапанавала некалькі рэцэптаў страў. Яны нескладаныя, праверадныя "на сабе". Сёння прапануем вашай увазе страву з незвычайнай назвай "Пастыцыё".*

## Пасты́цыё

*1 кг макароны, 1 кг фаршу, 1 цыбуліна, палова пучка пятрушкі, соль, спецыі.*

Купіце любую тоўстую круглую макарону і адварыце да паўгатоўнасці. Фарш мясны (любы, курыны, свіны, з ялавічыны) абсмажце з цыбуляй, часнаком, спецыямі на патэльні, уліце трохі вады і патушыце, пакуль не выпарыцца вада. Дадайце пятрушку і праз хвілінку здыміце з агню.

На бляху ўліце трохі алею, пасыпце сухарамі. Выкладзіце палову варанай макароны, зверху выкладзіце ўвесь фарш і зноў астатнюю макарону. Пасыпце ўсё сухарамі, паліце соусам "Бешамэль" і пастаўце ў духоўку на 180-200 градусаў. Калі страва зарумяніцца, выключайце, недзе праз 30-40 хвілін.

## Соус "Бешамэль"

На патэльні распусціце 3-4 сталовыя лыжкі масла, дадайце 2-3 сталовыя лыжкі мукі, смажце, каб не было камячкоў. Як стане залацістага колеру, дадайце 0,5 літра малака сярэдняй ці павышанай тлустасці. Перамяшайце, зніміце з агню.

Калі соус трохі астыне, убіце 2 яйка і дадайце 100 г цвёртага сыру. Узбіце міксерам. Соус гатовы.

**Проста МАРЫЯ.**

ГАРАСКОП

1-7 КРАСАВІКА

**Авен.** Што раней для вас было недаступным, цяпер зможаце атрымаць з лёгкасцю. Многія праблемы знікнуць, а справы паспяхова вырашацца. Толькі не будзьце такімі прынцыповымі і непахіснымі, не крытыкуйце іншых.

**Цялец.** Зоркі раяць вам выхоўваць у сабе цярпенне. Трэба дасягнуць поспеху ў тым, што псіхолагі называюць эмацыйнай стабільнасцю. Навучыцеся не зрываць злосць на іншых, і тады вам будзе падораная ўдача.

**Блізняты.** Злучыце свае жаданні і магчымасці, і вы атрымаеце фінансавую стабільнасць і свабоду. Выхадныя правядзіце ў камфортнай абстаноўцы і з тымі, хто вам па душы.

**Рак.** Для вас можа стаць актуальным філасофскае пытанне аб сэнсе жыцця, толькі не вельмі замыкайцеся ў сабе. Старайцеся своечасова заўважаць непрыемнасці і абыходзіць іх бокам.

**Леў.** Вам прыйдзецца наладжваць кантакты і ўзаемаадносіны з людзьмі. І не прапускайце адказных мерапрыемстваў без уважлівай прычыны.

**Дзева.** Вам трэба многае ўпарадкаваць у самых розных жыццёвых сферах. Будзьце асцярожныя, хтосьці спрабуе павесіць на вас свае праблемы.

**Шалі.** Рабіце ўсё самі, не спадзявайцеся на іншых, вось убачыце, у вас усё атрымаецца. І адстойвайце свае ідэі, планы і праекты. Чакайце прыемных навін.

**Скарпіён.** Настройвайцеся пазітыўна. Вы можаце змяніць сітуацыю ў лепшы бок. Самым спрыяльным чынам складуцца розныя паездкі і падарожжы.

**Стралец.** Суровасць і прынцыповасць – гэта не тыя якасці, якія патрэбныя вам цяпер. Вучыцеся не толькі слухаць, але і чуць, не паддавайцеся імпульсіўнаму парыву, каб пасля не шкадаваць аб зробленым.

**Казярог.** Будзьце гатовыя і да перамог, і паражэнняў, тады вам нішто не сапсуе добрага настрою. І не лунайце ў аблоках.

**Вадалей.** Вас парадуюць перамены. Сітуацыя разрадзіцца і будзе развівацца вам на карысць. Праблемы дапамогуць уладзіць верныя сябры і ўласныя сувязі.

**Рыбы.** Пастарайцеся змяніць свет вакол вас да лепшага, будзьце прыемныя ў зносінах, усміхайцеся, выкарыстоўвайце любую магчымасць завесці новае знаёмства.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 2 красавіка, субота

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +3 | +1 / +5 | 0 / +9 | 0 / +8 |
| | 734 ↓ 3 | 742 ↘ 9 | 746 ↘ 7 | 745 ↓ 6 |
| Вільня | +1 / +5 | +1 / +8 | -1 / +9 | 0 / +8 |
| | 745 → 2 | 754 ↘ 8 | 757 ↘ 5 | 755 ↓ 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.40
Захад 19.52
Даўжыня дня 13.12

Усход 4.11
Захад 13.22
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -12,1 °C у 1955 годзе
Максімальная тэмпература +19,5 °C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,3 мм у 1989 годзе
Назіранні за 60 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Пра выхаванцаў Маладзечанскага цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, якому споўнілася 20 год, гаворым у наступным нумары.**

● ДЗЕНЬ СМЕХУ

## 1 красавіка ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае Дзень смеху.

І пажартаваць у гэты дзень абавязак кожнага. Але каб не дапякаць знаёмых класічным: " У вас спіна белая!" – вам у дапамогу наш хіт-парад розыгрышаў. Калі вы сур'ёзны чалавек і жартачкі – гэта не ваша, усё адно пачытайце, каб не трапіцца самім на вуду сваіх сяброў.

### Розыгрыш "Жывая нітка"

Апранаеце цёмны пінжак ці світар, галоўнае, каб была кішэня. Бераце катушку са светлымі ніткамі і з дапамогай іголкі працягваеце нітку на вонкавы бок адзення. Катушку кладзяце ў кішэню. Калі да вас пацягнуцца зняць нітку, дазвольце гэта зрабіць.

### Розыгрыш "Пазвані мне"

Шляце ім СМС з тэкстам: "Не магу знайсці свой мабільны тэлефон. Патэлефануй, калі ласка". І чакаеце, хто ж усё-такі патэлефануе. Галоўнае, разыгрываць з раніцы, пакуль сябры яшчэ не прачнуліся.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Каханы, я цяжарная.
– Што-о-о?
– З першым красавіка, дурненькі.
– Люда, гэтак да інфаркту давесці можна!
– Якая я табе Люда?!
– З першым красавіка, даражэнькая!

***

Разумныя людзі першага красавіка выпэцкваюць спіны крэйдай, каб не абарочвацца пасля кожнага розыгрышу.

***

Калі першага красавіка не пажартуеш – адчуеш сябе апошнім дурнем. А калі пажартуеш – першым.

***

У Дзень дурня не забудзьце павіншаваць тых, хто парваў з вамі адносіны.

***

– У мяне Дзень нараджэння 1 красавіка, але я так ніколі і не адзначаю.
– Чаму?
– Мне ніхто не верыць.

ТЕПЛИЦЫ из поликарбоната
РАССРОЧКА!
ПАРНИКИ, ДУШИ, БЕСЕДКИ
ПОДАРКИ ПЕНСИОНЕРАМ!
8(017)388-05-81
+375(29)692-12-89
Сайт: capacity.by Первый поставщик в РБ ООО"Капасити" УНП 691786577

ОКНА ТУТ!
АНТИКРИЗИСНЫЕ ЦЕНЫ!
8(029) 525-25-42
8(044) 727-21-27
ИП Третьяк Е.В. УНП 691896717

Реставрация ванн
Самый быстрый способ реставрации ванн по лучшей технологии
Ваша ванна остаётся белой 15 лет
(8-044) 792-63-33
(8-033) 392-14-29
ИП Петровская Р.Р. УНП 591807751

Профессиональная РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН
Стаж – 15 лет. 950 000 руб.
(8029) 989-56-67
(8029) 553-73-34
(80176) 50-10-18
ИП Кочкин А. А. УНН 190793011

Предлагаем
ВСЕ НЕОБХОДИМОЕ ДЛЯ ВЫПОЛНЕНИЯ СНиПов!
Антисептики и дезинфектанты, гигрометры, локтевые дозаторы, маркированный уборочный инвентарь, спецодежда одноразовая и многоразовая, перчатки, бахилы, лицевые маски и многое другое.
Наличный и безналичный расчет
Ждем Вас с 10:00 до 20:00
в магазине-прокате медицинских изделий и техники "Медпомощь"
г. Молодечно, ул. Волынца, 12б (напротив МТБанка, ТЦ "Этажи")
тел. 77-00-58 ОДО «КВЭРК» УНП 690604684

✓ Лазерная резка, гибка ЧПУ, рубка, вальцовка, сварка
✓ Токарные, фрезеровочные работы
✓ Термическая обработка
✓ Балансировка изделий до 1 т
Тел. (8 0176) 77-11-70 www.t-o.by ООО «Точка опоры» УНП 690387150

Мы знаем о теплицах все!
www.vial-group.by/теплица
ИП Масевич В.Л. УНП 691175310
ТЕПЛИЦЫ
ОТ ЭКОНОМ ДО ПРЕМИУМ КЛАССА
БЕСПЛАТНАЯ ДОСТАВКА!
(8-029)876-88-91 МТС
(8-029)341-60-44 Вел.

Центр подготовки г. Вилейка объявляет набор на курсы:
✔ Автокрановщик
✔ Оператор манипулятора
✔ Слесарь по ремонту автомобилей
✔ Водитель погрузчика
✔ Станочник д/о станков
✔ Токарь
Тел. (8-01771) 3-53-69, (8-029) 852-76-25 УНП 600011170

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія радкі Ніла Гілевіча вам найбольш падабаюцца?

**Ніла Гілевіча не стала 29 сакавіка. На 2-й старонцы пра яго гаворыць маладзечанец Лявон Цімохін. Мы вырашылі спытацца ў паэтаў нашага рэгіёна, якія радкі Ніла Гілевіча самыя любімыя ў іх.**



**Віктар Шніп, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура", нарадзіўся на Валожыншчыне :**

– 31 студзеня 2013 года быў дома ў Ніла Гілевіча. Нагаварыліся. Ніл Сымонавіч падрыхтаваў рукапіс кніжкі для выдання ў серыі "Паэзія XX стагоддзя". Прапанаваў тры назвы: "Мой час", "Лёс і песня" і "І мы дойдзем..." Першыя дзве ён сам забракаваў, а трэцюю я.

"І мы дойдзем да Беларусі! – нармальна, а вось проста дойдзем – гэта памром..." – сказаў я, і Ніл Сымонавіч рассмяяўся: "А мне і ў галаву не прыйшло!".

І верш "І мы дойдзем да Беларусі! – мой любімы.

*За векам век плыве-цячэ,*
*А мы ідзем, ідзем... І што ж?*
*О, як далёка нам яшчэ*
*Да Беларусі!*
*Ужо няўсцерп нам крыж пакут,*
*І мы крычым, крычым, але —*
*Не дакрычаліся пакуль*
*Да Беларусі.*
*А можа быць, яна – міраж,*
*І ўсе мы трызнім? Бо чаму ж*
*Не далятае голас наш*
*Да Беларусі?*
*Відаць, пракляцця знак ляжыць*
*На нас ад роду, і таму*
*Так цяжка шлях нам церабіць*
*Да Беларусі.*
*Равуць вятры, грымяць грамы,*
*Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,*
*І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы*
*Да Беларусі!..*

У канцы 2014 года на маё пытанне "Ці адведваюць вас пісьменнікі?" Ніл Сымонавіч адказаў: "Часта прыходзіць мой аднакурснік. Анатоль Вярцінскі. Бывае Эдуард. З Саюза кіраўнікі адведваюць – Пятровіч і Пашкевіч. З Маладзечына, прыехаўшы па справах у сталіцу, заходзіць Міхась Казлоўскі. Ён надта слаўны хлопец! Сёння вы прыйшлі..." Развітваючыся, Ніл Сымонавіч папрасіў: "Калі будуць пытацца, як я сябе пачуваю, вы зманіце, што Гілевіч вельмі бадзёры, працуе шмат і на здароўе яшчэ не скардзіцца..."



**Аксана Ярашонак-Камінская, Ілья:**

– З яго паэзіі мне адразу прыгадваецца верш, крыху неўласцівы для Ніла Гілевіча.

*Белыя сыплюцца долу крышталікі,*
*Белыя крышацца хмаркі ўгары.*
*Сосны захутаны ў белыя шалікі.*
*Белая мітусь у белым бары.*
*Белая, мяккая ціша няхрусткая,*
*Белай дрымотай спавіты кусты.*
*Белая казка... Зіма беларуская...*
*Што ж мне не дорыш снягурачку ты?..*

А з яго публіцыстыкі прыгадваюцца радкі з кнігі "Любоў прасветлая: Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове". Сэнс такі: пакуль мой маленькі сын, прыбягаючы з вуліцы, будзе казаць: "Тата, мяне хлопчыкі б'юць за тое, што я размаўляю па-беларуску", дагэтуль мы не станем нармальнай краінай.



**Усевалад Сцебурака, вырас у Вілейцы:**

– Акрамя Гілевіча-паэта існуе Гілевіч-постаць. Ён не быў проста творцам, ён быў шматгранным чалавекам. Ёсць смутак па яго адыходзе, але ёсць і разуменне, што ён пражыў сваё жыццё недарма. Ён праявіў сябе ва ўсіх сферах жыцця, прасоўваў беларускасць, стаяў ля вытокаў Таварыства беларускай мовы, яго спадчына вялікая ва ўсіх сэнсах. Дзякуй за яе!

**Аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№14 (1092) 1.04.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 300. Падпісана ў друк у 9.00 31.03.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.